18 ТРАЎНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№53 (584) КОШТ СВАБОДНЫ




# Аперацыя «Аўтобус»

## 16 траўня, у асноўны дзень выбараў прэзідэнта, больш за тысячу чалавек здолелі прагаласаваць на стацыянарным участку

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**16 траўня скончыліся выбары прэзідэнта Беларусі. Паводле папярэдніх дадзеных, усяго на выбарах з 6 па 16 траўня прагаласавала 4.007.379 чалавек, што складае 53,1% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. У Мінску прагаласавала 728.868 чалавек (58,09%). Такім чынам, калі прыняць гэтыя лічбы за сапраўдныя, то выбары адбыліся. Аб тым, колькі галасоў было пададзена за Міхаіла Чыгіра, а колькі – за Зянона Пазьняка, мы даведаемся толькі праз пару дзён.**

16 траўня ў Мінску на вуліцы Голубева, каля дома N 5, у кінутым аўтобусе працаваў стацыянарны выбарчы ўчастак «Аўтобус».

Галасаванне чымсьці нагадвала авангардны перформанс: з ранку ў нядзелю арганізатары (па нашай інфармацыі, яны прадстаўлялі Маскоўскую раённую філію БНФ) сабралі больш за 50 журналістаў з беларускіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі, потым дварамі павялі іх у невядомым накірунку і нарэшце прывялі да старога праіржавеўшага аўтобуса, які літаральна ўрос у зямлю блізу аднаго з дамоў. Арганізатары пачалі ўпрыгожваць аўтобус выбарчымі лозунгамі «Лёс Бацькаўшчыны ў тваіх руках!», унутры паклалі дывановае пакрыццё, зрабілі нават кабінку для галасавання з дзвюх фіранак. Увесь натоўп журналістаў стаў напружана чакаць першых выбаршчыкаў, якія яўна не спяшаліся галасаваць. Тым не менш, да 21 гадзіны, па словах арганізатараў, прагаласавала больш за тысячу чалавек. Амаль увесь дзень галасаванне праходзіла спакойна, але ўвечары міліцыянты паспрабавалі спыніць працэс – яны падцягнулі да аўтобуса трактар-эвакуатар, аднак не здолелі зрушыць з месца састарэлую тэхніку.

Нягледзячы на ўсе намаганні, прыкладзеныя выбарчымі камісіямі на стацыянарных участках, старшыня ЦВК Віктар Ганчар заявіў, што галасы, пададзеныя на такіх участках, не будуць улічвацца. «Гэта проста свавольства, – сказаў Віктар Ганчар пра стацыянарныя ўчасткі. – Але я падтрымліваю палітычны парыў тых людзей, якія галасавалі на стацыянарных участках, і мне шкада, што іхнія галасы не будуць улічаныя».

Падчас выбараў ад дзеянняў уладаў тым ці іншым чынам пацярпела некалькі тысячаў чалавек. Больш за 100 актывістаў былі затрыманыя, каля 20 чалавек атрымалі адміністрацыйныя арышты па 3-15 сутак. ■




На гэтым участку, што знаходзіўся на вуліцы Голубева, прынялі ўдзел у галасаванні каля 1.100 выбаршчыкаў




Пікет каля беларускай амбасады ў Брусэлі быў арганізаваны супрацоўнікамі офіса Хартыі'97 14 траўня. Больш за 30 беларусаў, якія прыехалі ў Брусэль з усіх канцоў Бельгіі, запатрабавалі адкрыць на тэрыторыі амбасады выбарчы ўчастак. Гэта была самая масавая акцыя пратэсту, праведзеная за мяжой.

# Раскол ці ачышчэнне?

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Прэзідэнцкія выбары, якія прайшлі 16 траўня, узарвалі знутры і без таго няпростую сітуацыю ў буйнейшай палітычнай партыі — Беларускім Народным Фронце. Досыць складана сказаць зараз, да чаго прывядзе гэты фактычны раскол у Фронце, але з цяперашняй пазіцыі здаецца, што яго нельга было пазбегнуць.**

Ужо амаль тры гады ў БНФ існавалі дзве розныя групоўкі, якія хоць і ладзілі паміж сабою на публічных прэс-канферэнцыях ды масавых акцыях, тым не менш вельмі часта ў «кухонных дэбатах» проста палівалі адна адну брудам. Цяпер, калі ў гэтых груповак кардынальна разышліся меркаванні аб прэзідэнцкіх выбарах і «вайна пад коўдрай» стала бачнаю грамадству, можна з упэўненасцю сказаць, што падчас чарговага рэспубліканскага з'езду БНФ, які прызначаны на трэцюю дэкаду ліпеня, у партыі могуць адбыцца значныя рэформы.

Адна частка Фронту, якую ўзначальваюць спадары Хадыка, Вячорка і Сіўчык, лічыць, што знішчэ Зянонам Пазьняком сваёй кандыдатуры і вывад сябroў Фронту са складу выбарчых камісіяў ёсць велізарная палітычная памылка. Па словах Вячаслава Сіўчыка, «у рэшце рэшт Масква дачакалася. Беларускі Народны Фронт працуе на Расію!» Па меркаванні гэтай часткі фронтаўскага кіраўніцтва, «цмока можна перамагчы толькі ягонымі метадамі, і Фронту ў любым выпадку трэба было прымаць удзел у выбарах да самага іх заканчэння, не зважаючы на магчымыя фальсіфікацыі з боку ЦВК».

Палітыка, на думку гэтых лідэраў БНФ, — справа занадта брудная, і перамагчы з чыстымі рукамі тут проста немагчыма. Ініцыятыва ж Зянона Пазьняка, па іх меркаванні, утварыла раскол у БНФ.

У той жа час Сяргей Папкоў, які ўзначальваў выбарчы штаб З.Пазьняка і падтрымліваў лідэра БНФ у эміграцыі ва ўсіх ягоных кажа, што калі Фронт пачне гуляць у брудныя гульні, то чым тады ён будзе лепшы за тую ўладу, якую ён спрабуе скінуць. Сакратар Управы Анатоль Крыварот не бачыць цяпер пагрозы расколу Фронту: «Зараз ідзе праверка на сумленнасць. Тыя, хто адыдуць ад нас, няхай адыходзяць. Гэта будзе для Фронту ачышчэннем. Мы проста страсем з сябе гэты бруд».

Такім чынам, над Фронтам «збіраюцца хмары», якія маюцца перарасці ў буру падчас з'езду, дзе, па чутках, будзе агучаная прапанова аб змене Зянона Пазьняка на пасадзе старшыні БНФ на цяперашняга ягонага намесніка Юрыя Хадыку. ■

## БНФ не озеро для Нарцисса

Юрий ХОДЫКО, зам. председателя БНФ



**Древнегреческий миф рассказывает про юношу Нарцисса, который, проходя мимо озера, увидел в воде свое отражение. Очарованный, он остановился и забыл обо всем на свете. Так и умер, не отрывая взгляда от своего облика на водной глади.**

**Нечто подобное происходит с лидером БНФ Зеноном Пазьняком. В своем последнем интервью в качестве кандидата в президенты РБ на выборах, которые объявил ВС 13 созыва, он заявил, что за годы эмиграции привык ничему не удивляться и принимать... неожиданные решения. Увы, это — самообольщение. Никаких неожиданных решений Зенон Станиславович в последнее время не принимал. Не было неожиданностью и его решение снять свою кандидатуру. Напротив, оно стало логическим завершением его избирательной кампании, которой он придал откровенно скандальный характер.**

*Продолжение читайте на стр.3*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### «Камсамолку» пакаралі

Дзяржаўны камітэт па друку вынес папярэджанне рэдакцыі газеты «КП в Беларуси». Чыноўнікі з ведамства Міхаіла Падгайнага пакаралі «Камсамолку» за распаўсюджванне неправеранай інфармацыі. Як паведамілі нам у Дзяржкамдруку, «Комсомольская правда» «пракалолася» на нядаўнім паведамленні аб знікненні былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі. Журналіст, у прыватнасці, паведаміў, што генерал Захаранка падаў у адстаўку з пасады шэфа МУС пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі. У сапраўднасці ж Лукашэнка прызначыў Захаранку міністрам пасля свайго прыходу да ўлады.

Звычайная журналісцкая няўважлівасць, што здараецца досыць часта. Як правіла, у такіх выпадках рэдакцыя газеты друкуе ўдакладненне ў адным з бліжэйшых нумароў — і справе канец. Папярэджанні ж з такой нагоды — гэта нешта новае. Не выключана, што ў Дзяржкамдрука нейкае адмысловае стаўленне да «Камсамолкі». Інакш чым можна растлумачыць прымяненне чыноўнікамі сур'ёзных санкцыяў да папулярнай газеты?

*Альгерд НЕВЯРОЎСКІ*

### Завод зачынілі

На тэрыторыі горада Оршы і Аршанскага раёна выяўленая небяспечная інфекцыя — дызентэрыя. Як нам паведамілі ў рэспубліканскім цэнтры эпідэміялогіі і гігіены, шпіталізавана 35 чалавек, назіраецца некаторы ўздым захворвання. Па папярэдніх дадзеных, інфекцыя распаўсюдзілася праз прадукцыю аршанскага малаказавода. На цяперашні момант завод зачынены, санітарныя службы заклікалі жыхароў раёна не ўжываць яго вырабы.

*Мікола ВАЙТОВІЧ*

### Мой дом — мая крэпасць?

У пятніцу ў Віцебску ў двухпавярховым доме ў завулку Энергетыкаў адбыўся выбух, у выніку якога разбураны дах і сцены чатырох кватэраў. Загінула 68-гадовая жыхарка дома, а 15-гадоваму юнаку нанесеныя траўмы лёгкай ступені. Паводле папярэдніх звестак, у доме ўзарваўся газавы балон.

*Мікола ВАЙТОВІЧ*

## НАДВОР'Е




**19 траўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, вецер паўночна-заходні, 4/9 м.сек. Тэмпература паветра ноччу 2—7 градусаў цяпла, месцамі замаразкі да 0 — -3.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

## АЎТОРАК з Кастусём ТАРАСАВЫМ

### Кокакольныя развагі

Вяртаючыся з Гродна, я апынуўся ў купэ з чалавекам, які добра прыняў самаробнай «кока-колы». Танізуючы напой, як і мае быць, схіліў яго да палітычнай споведзі. Аказалася, што ён раней верыў прачытанай у дзяцінстве легендзе пра братоў Руса, Леха і Чэха. Аднак здрадніцкае ўступленне Леха і Чэха ў неславянскае НАТО, выклікала ў яго горасныя перажыванні. Пэўную кампенсацыю дало з'яўленне забытага брата Серба. Але паездка прэзідэнта Лукашэнкі ў Маскву моцна сапсавала настрой. Відаць, у Крамлі не разумеюць, што ў саюз з Расіяй уступае не асобна прэзідэнт Лукашэнка, а ўвесь 10-мільённы беларускі народ. І таму Расія паводзіць сябе непаважна ў адносінах да простых беларусаў. Колькі ўжо працякло вады з той хвіліны, як наш непрыхільны да алкаголю прэзідэнт прымусіў сябе выпіць у Крамлі гарэлкі і разбіць на шчасце народаў крыштальны фужэр, а справа не зрушылася з месца. Беларусы заслужылі большае, чым пагадненне аб агульных прэміях пісьменнікам, якія будуць апісваць брацкую дружбу. А ўжо заявы Ельцына, што не дазволіць журналістам крыўдзіць Лукашэнку, наогул падобныя на абразу. Лукашэнка, дзякаваць богу, сам за сябе можа пастаяць. Нямала журналістаў гэта зведалі. А хіба не абраза — адтэрміноўка парламенцкай сустрэчы над Нёманам? Для яе падрыхтавалі былы каралеўскі палац, а расійскія парламентарыі нават не падрыхтавалі дакументы. Чакайце, браткі-беларусы! Нікуды, як той казаў, не падзенецеся. Гэта ж, калі перакласці на простую мову, проста маральныя аплявухі ад брата Руса. Ад іх шчокі павінны палаць. А ў нас не палаюць. Апазіцыя нават смяецца, што беларусы выстаўленыя на сусветнае асмяянне, а рахманыя ўлады чакаюць, калі расіяне знойдуць час для наведак. У красавіку быў Прымакоў, а зараз Сцяпашын. Ужо адынымі прозвішчамі адзначаная розніца. А раней быў Чарнамырдзін, пасля яго — Кірыенка. І з кожным наш прэзідэнт мусіў дамаўляцца. Ён адзін, а іх многа. І чаму для стварэння Федэрацыі трэба чакаць новых расійскіх выбараў? Якія адносіны гэтыя выбары маюць да нашага саюза? І колькі чакаць? Поўгода ці да 2001 года? Неяк не па-брацку, з кплівай незацікаўленасцю гуляюць з намі, беларусамі, рускія браты. Трэба і нам паказаць характар. Няхай яны два гады паездзяць па нашых рэгіёнах, разаб'юць у нашай банкетнай зале наш крыштальны фужэр. Няхай зведаюць, як гэта крыўдна, калі шчыра прапаноўваеш сэрца, а згода на шлюб, як тая абяцанка-цацанка.

Я не ведаў, чым суцешыць такое гора, і чалавек суцяшыўся сваёй «кока-колай».

## На Захаранку адбыўся напад групы невядомых?

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН**

Грамадская камісія па расследаванні абставінаў знікнення аднаго з лідэраў апазіцыі Юрыя Захаранкі высветліла, што знікненне былога міністра ўнутраных спраў Беларусі адбылося ў выніку нападу на яго групы невядомых вечарам 7 траўня. Згодна з інфармацыяй, якая паступіла ў адрас камісіі ад відавочцаў, устаноўлена, што 7 траўня, паміж 21:00 і 22:00, каля дома №8, корпус 3, па вуліцы Магілёўскай у Кастрычніцкім раёне Мінска на Ю.Захаранку быў учынены напад групай асобаў (5–6 чалавек) у цывільным. Незнаёмцы, прымяніўшы сілу, зацягнулі Юрыя Захаранку ў аўтамашыну «Жыгулі» цёмнага колеру і павезлі яго ў накірунку вуліцы Жукоўскага. Частка невядомых пакінула месца здарэння пяшком. Грамадская камісія па-ранейшаму звяртаецца да ўсіх грамадзянаў, якія маюць інфармацыю аб абставінах знікнення Юрыя Захаранкі, з просьбай паведамляць аб гэтым па тэлефонах: **263-04-82 і 226-68-10**. ■

## Паплечнікі Генадзя Карпенкі адзначылі 40 дзён з яго смерці

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН**

Сваякі, сябры, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га і 13-га скліканняў, члены Нацыянальнага выканаўчага камітэта, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, іншых грамадскіх арганізацыяў, вядомыя дзеячы літаратуры і мастацтва сабраліся 15 траўня на Маскоўскіх могілках сталіцы, каб ушанаваць памяць памерлага 6 красавіка Генадзя Карпенкі.

У гэты дзень споўнілася 40 дзён з моманту смерці аднаго з лідэраў беларускай апазіцыі. З гэтай нагоды быў праведзены памінальны малебен (царква гэты абрад называе «пахаванне»). Да магілы Генадзя Карпенкі прысутныя ўсклалі букеты кветак і ўшанавалі яго памяць хвілінай маўчання. ■

## Мірон прызямліўся ў Берасці...

**Аддзел інфармацыі**

У суботу з ранку на самым шматлюдным месцы горада — перакрыжаванні бульвараў Касманаўтаў, Шаўчэнкі і праспекта Машэрава — берасцейцы змаглі ўбачыць бел-чырвона-белы сцяг, прычэплены на электрычным дроце па-над кавярняй «Бульбяная». Палотнішча з легендарным спалучэннем колераў горда лунала на вышыні 10-павярховага дома, выклікаючы ў мінакоў розныя пачуцці. Хтосьці кідаў абыякавы позірк і крочыў далей, хтосьці дзівіўся смеласці невядомых патрыётаў, а найбольш дасведчаныя ў захапленні думалі: «Нарэшце, сам Мірон наведаў наш слаўны горад!» Так што 16 траўня Берасце сустракала гістарычнай сімволікай. ■

## «Боінг» ляцеў без «візы»

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**Амерыканскі самалёт «Боінг-727-100» зрабіў незапланаваную пасадку ў аэрапорце «Мінск-2» пасля таго, як яго не пусцілі ў паветраную прастору Расіі. Трэці дзень пяць пасажыраў і сем членаў экіпажа чакаюць у мінскім аэрапорце дазволу на аднаўленне палёту ў Маскву.**

«Боінг» вылецеў з аэрапорта «Ле Буржэ» каля французскай сталіцы днём у нядзелю. Па звестках, у амерыканскага самалёта быў дазвол на палёт над тэрыторыяй Беларусі 16 траўня, а вось з расійскай «візай» нешта не заладзілася. Як сцвярджаюць у беларускім Дзяржкамітэце па авіяцыі, расіяне афармілі дазвол замест 16 на 18 траўня. Памылка высветлілася, калі «Боінг» быў ужо ў небе. Лётчыкі спрабавалі дамовіцца з «Шарамецева-2» аб пасадцы, але безвынікова. Нават спрабавалі змяніць курс на Санкт-Пецярбург, але ўмяшаліся расійскія ваенныя і запатрабавалі спыніць палёт. Прыйшлося «Боінгу» павярнуць назад і сесці пад Мінскам.

Што далей? Намеснік старшыні Дзяржкамітэта па авіяцыі Васіль Ермакоў кажа, што, хутчэй за ўсё, госці вылецяць у Маскву ў аўторак, скарыстаўшы ранейшы дазвол. Атрымаць новы дазвол на пралёт над нашай тэрыторыяй для іх не праблема, бо «пасадка ў нас была вымушанай». Увогуле сп.Ермакоў не бачыць у здарэнні нічога сенсацыйнага. Дзеянні расіянаў ён каментаваць не бярэцца, адгнак мяркуе, што хутчэй за ўсё «гэта была памылка». А мы з той памылкі нават грошы атрымаем — за стаянку і абслугоўванне амерыканцы разлічваюцца валютай.

Што за пасажыры ляцяць з Парыжа ў Маскву, сп.Ермакоў не ведае. Паведамляе толькі, што рэйс быў афомлены як прыватны. Усяго пяць пасажыраў на такі самалёт, канешне, мала, але гэта справа прыватная, лічыць Васіль Ермакоў.

Дарэчы, у панядзелак з'явіліся чуткі, што ў ліку іншых пасажыраў «Боінга» да нас прыляцеў былы прэзідэнт Югаславіі Зоран Ліліч, які год таму ўжо быў у Мінску з візітам. Аднак знайсці ў мінскім аэрапорце сляды сп.Ліліча не ўдалося — пасажыры «Боінга» адмаўляюцца кантактаваць з прэсай. У югаслаўскай амбасадзе ў Беларусі НАВІНАМ адназначна заявілі, што звестак пра знаходжанне былога прэзідэнта ў Мінску не маюць. ■

## Створана камісія па выплаце кампенсацыяў дыппрадстаўніцтвам

**Аддзел інфармацыі**

Савет Міністраў прыняў пастанову аб стварэнні міжведамаснай камісіі па ўрэгуляванні пытанняў, звязаных з выплатай кампенсацыяў дыпламатычным прадстаўніцтвам замежных дзяржаваў, якія арэндавалі будынкі на тэрыторыі «Драздоў». Камісіі, якую ўзначаліў намеснік міністра замежных спраў Уладзімір Герасімовіч, даручана правядзенне перамоваў з кіраўніцтвам зацікаўленых дыпламатычных прадстаўніцтваў замежных дзяржаваў аб кампенсацыйных выплатах. Старшыня міжведамаснай камісіі па выніках перамоваў павінен унесці на разгляд валютна-крэдытнай камісіі Савета міністраў прапановы па памеры і парадку ажыццяўлення кампенсацыйных выплатаў. ■

### ФОТАФАКТ



Фота Ул.ШЛАПАКА

Старшыня рабочай групы Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па Беларусі **Адрыян Севярын** (злева) разам са старшынёй місіі АБСЕ **Хансам-Георгам Вікам** сачылі за выбарамі 16 траўня 1999г. каля выбарчага ўчастка «Аўтобус»

### ЦЫТАТА НУМАРА

*Мне кажется, что интеллигенция во власти, как те тёлочки в вольере у зубров: стоят, не востребованные, а зубры бегают и не смотрят в их сторону. Вот такая у меня метафора неожиданно родилась.*

*Геннадий ДАВЫДЬКО*
*«Советская Белоруссия», 15 мая 1999г.*

## Консульскі аддзел ЗША ўводзіць новыя правілы

**БелаПАН**

Пачынаючы з 1 чэрвеня 1999 года, консульскі аддзел пасольства ЗША ў Беларусі будзе праводзіць прыём грамадзянаў Беларусі (ад 16 гадоў і старэй), якія звяртаюцца за неіміграцыйнай уязной візай, па папярэдняй дамоўленасці, што дазволіць апрацоўваць большую колькасць заявак.

З 1 чэрвеня г.г. прыём па пытанні выдачы неіміграцыйнай візы будзе магчымы толькі ў загадзя агавораны час. Каб прызначыць час прыёму, усе, хто будзе звяртацца, павінны з'явіцца ў амерыканскае пасольства, маючы пры сабе свой пашпарт і пашпарты ўсіх членаў сям'і альбо калегаў, з якімі яны плануюць накіравацца ў ЗША. Прызначыць час субяседавання можна за два тыдні.

Паколькі ўжо 1 чэрвеня прыём грамадзянаў будзе праводзіцца па папярэдняй дамоўленасці, пасольства ЗША паведамляе, што пачне выдачу талонаў з указаннем даты і часу інтэрв'ю з 24 траўня. Талоны з указанным часам прыёму будуць выдавацца штодзённа па працоўных днях з 9 да 17 гадзінаў у консульскім аддзеле пасольства. Любыя выключэнні ў новай працэдуры будуць рабіцца толькі на індывідуальнай аснове ў выпадку прадастаўлення доказаў тэрміновасці.

Адзначанае новаўвядзенне тычыцца асобаў, якія накіроўваюцца ў ЗША ў складзе групы з пяці і больш чалавек, а таксама якія звяртаюцца за візамі тыпу L-1 (перавод на іншае месца працы ў межах кампаніі-працадаўцы) і R-1 (рэлігійная дзейнасць). Гэтыя катэгорыі асобаў могуць звяртацца ў консульскі аддзел у любы дзень у другой палове дня, і ім будзе вызначаны спецыяльны час. Старая працэдура звароту за візамі будзе дзейнічаць да 27 траўня. ■

## Беларусаў — 10.037.213 чалавек

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**

Паводле папярэдніх звестак перапісу насельніцтва, які прайшоў з 16 па 23 лютага 1999 года, у Беларусі пражывае 10.037.213 чалавек. Як паведаміла намеснік начальніка аддзела перапісу насельніцтва Міністэрства статыстыкі і аналізу Валянціна Краўчанка, агульная колькасць мужчын, якія жывуць у краіне, склала 4.721.101 чалавек, жанчын — 5.316.112; 6.955.951 чалавек жыве ў гарадах і 3.081.262 — у сельскай мясцовасці. За дзесяць гадоў агульная колькасць насельніцтва скарацілася на 114.587 чалавек, у тым ліку мужчынскага — на 28.199, а жаночага — на 86.388 чалавек. ■

## У цэнтры Мінска адбыўся выбух

**БелаПАН**

Раніцай 16 траўня ў цэнтры беларускай сталіцы, у двары дома № 5 па вуліцы Рэвалюцыйнай адбыўся выбух. У гэтым будынку размяшчаецца былое Галоўнае ўпраўленне ваенізаванай пажарнай службы МУС Беларусі, цяпер — адно з падраздзяленняў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

Апошнім часам там праводзіўся рамонт, і ўзарвалася нешта ў адным з мяшкоў са смеццем, пакінутых будаўнікамі. Выбух не прывёў да сур'ёзных наступстваў, калі не лічыць некалькіх выбітых шыбаў у ніжніх паверхах будынка. Паводле інфармацыі дзяжурнага галоўнага ўпраўлення ўнутраных справаў Мінскага гарвыканкама, цяпер высвятляецца, што магло паслужыць прычынай выбуху.

Трэба адзначыць, што непадалёк ад вышэйзгаданага будынка на гэтай жа вуліцы знаходзіцца будынак следчага камітэта МУС рэспублікі і пасольства Францыі ў Беларусі. ■

## Дзень без цыгарэты

**БелаПАН**

Міністэрства аховы здароўя Беларусі зацвердзіла план правядзення мерапрыемстваў у межах традыцыйнага Дня без тытуню, які штогод 31 траўня праводзіць Сусветная арганізацыя аховы здароўя. Сёлета ён пройдзе пад дэвізам «Забудзь пра пачак». 31 траўня будзе арганізаваны фізкультурны прабег, прысвечаны Дню без тытуню. Акрамя таго, да канца траўня намечана правесці сацыялагічнае даследаванне па праблеме курэння сярод медыцынскіх работнікаў.

Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, ужыванне тытуню штогод выклікае 3,5 мільёна смерцяў ва ўсім свеце. Адначасова даследаванні паказваюць, што больш за 75 працэнтаў курцоў жадаюць адмовіцца ад шкоднай звычкі. ■

## VOLKSWAGEN знізіў цэны

**БелаПАН**

Генеральны імпарцёр канцэрна Volkswagen AG у Беларусі — замежнае прадпрыемства «Атлант-М Фарцойгхандэль» абвясціла аб зніжэнні цэнаў на легкавыя аўтамабілі канцэрна. У сярэднім базавыя мадыфікацыі Polo, Polo Classic і Polo Variant сталі для айчыннага пакупніка больш даступнымі на 1.800 нямецкіх марак; базавыя мадыфікацыі Passat і Passat Variant — у сярэднім на 1.300 нямецкіх марак. ■

# Віннікава збегла сама?

## Генпракурор прапаноўвае ўласныя версіі адносна апошніх гучных скандалаў

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Тамара Віннікава ўцякла «па ўласнай ініцыятыве» – перакананы Генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка. Пра гэта ён паведаміў на прэс-канферэнцыі ў мінулую пятніцу.**

Па словах А.Бажэлкі, следства паставіла пад сумнеў медыцынскія заключэнні аб крытычным стане здароўя эксбанкіршы. Больш за тое – пракуратура вырашыла стварыць новую медыцынскую камісію, каб скласці новае заключэнне. Даведаўшыся пра гэта, маўляў, Тамара Віннікава палічыла за лепшае «знікнуць».

Алег Бажэлка таксама паспрабаваў пераканаць журналістаў, што хоць у кватэры Віннікавай увесь час дзяжурылі супрацоўнікі органаў, але яна магла свабодна перасоўвацца і магла кантактаваць з кім заўгодна. Не хочацца расчароўваць Генеральнага пракурора, але па нашых звестках усё выглядала з дакладнасцю да наадварот.

Дарэчы, у Міністэрстве унутраных справаў Беларусі абверглі інфармацыю, што днямі ў Камсамольскім возеры ў Мінску быў знойдзены труп Тамары Віннікавай з камянём на шыі. Па словах супрацоўнікаў міліцыі, труп там сапраўды быў знойдзены, аднак гэта была не Віннікава.

Генеральны пракурор распавёў і пра іншыя «гучныя справы». У прыватнасці, ён паведаміў, што справа былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава, якая складаецца з 39 тамоў, перададзеная ў Вярхоўны суд. Паводле словаў А.Бажэлкі, былы міністр абвінавачваецца ва ўчыненні ажно 90 злачынстваў: 85 крадзяжоў, 4 факты злоўжывання службовым становішчам і нават 1 факт вырабу і захавання боепрыпасаў. Следства ацэньвае шкоду, нанесеную В.Лявонавым, у 7,1 мільярда рублёў. Праўда, у бюджэт дзяржавы ўдалося вярнуць 2 мільярды 458 мільёнаў рублёў.

Як сцвярджае генпракурор, інфармацыя пра галадоўку 61-гадовага Васіля Лявонава не адпавядае сапраўднасці. Тым не менш, па словах адваката В.Лявонава Вольгі Зудавай, яе падабаронны правёў ужо тры галадоўкі, апошняя доўжылася з канца красавіка да 14 траўня і была спыненая толькі па настойлівай рэкамендацыі дактароў медчасці следчага ізалятара, дзе з 11 лістапада 1997 года ўтрымліваецца былы міністр. Медыкі паведамілі Лявонаву, што ў выніку галадоўкі ў яго фактычна пачалі разлагацца ныркі. Паводле словаў В.Зудавай, за час знаходжання ў няволі яе падабаронны схуднеў на 24 кілаграмы. Сваімі галадоўкамі ён пратэставаў супраць таго, што яму не аказваецца належная медыцынская дапамога, не прадастаўляецца магчымасць лячэння ў стацыянары, нягледзячы на тое, што ва ўмовах утрымання пад вартай у яго рэзка абвастрыліся хранічныя захворванні.

Міхаіл Чыгір у бліжэйшы час будзе абвінавачаны ў новых злачынствах, як паведаміў Алег Бажэлка. Ён заявіў, што «ў гэтай справе не толькі адзін мільён доляраў фігуруе, там іншыя лічбы выходзяць на паверхню». Так што спадзявацца на хуткае вызваленне Чыгіру не даводзіцца. Генпракурор запэўніў, што нібыта справа М.Чыгіра чыста эканамічная і ніякай палітычнай афарбоўкі не мае. Слабае суцяшэнне для зняволенага.

Што ж датычыць таямнічага знікнення Юрыя Захаранкі, то крымінальная справа па гэтым факце не была заведзеная. «Якіх-небудзь звестак аб тым, што супраць Захаранкі было ўчыненае злачынства, няма», — заявіў Алег Бажэлка. Тым не менш, была заведзеная справа аб ягоным росшуку. ■

**ПАРТЫІ**

# І хлопчыкі крывавыя ў вачах?

## Палітэмігрант Пазьняк павялічыў уласны спіс ворагаў. На гэты раз у ім апынулася, акрамя «прарасейцаў» Чыгіра і Ганчара, яшчэ і частка лідэраў БНФ

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**Сур'ёзным скандалам і расколам у стане апазіцыі скончылася кампанія па выбарах прэзідэнта Беларусі. За тры дні да даты афіцыйнага заканчэння галасавання Зянон Пазьняк заявіў аб зняцці сваёй кандыдатуры.**

13 траўня Пазьняк даслаў чарговую факсавую заяву, у якой абвінаваціў кіраўніцтва Цэнтрвыбаркама ў фальсіфікацыі галасавання. На думку лідэра БНФ, сама працэдура папярэдняга галасавання з'яўляецца незаконнай, а пададзеныя Цэнтрвыбаркамам лічбы выбаршчыкаў, якія нібыта ўжо прагаласавалі, ёсць «цынічны і адкрыты падман грамадскасці». Пазьняк сцвярджае, што звязваўся з дзесяткамі раёнаў краіны і амаль нідзе ў іх пакватэрнае галасаванне не праводзілася. Палітэмігрант назваў выбары крымінальнай авантурай, параўнаў іх з лукашэнкаўскім рэферэндумам 1996 г., заявіў аб зняцці сваёй кандыдатуры і заклікаў усіх сябраў БНФ выйсці са складу выбарчых камісіяў.

У дадатку да свайго паслання Пазьняк расказаў, як і дзе рыхтавалася гэтая «выбарчая авантура». Па ягоных словах, гэта быў маскоўскі праект стварэння ў Беларусі прарасійскай антылукашэнкаўскай апазіцыі, які меў на мэце знішчэнне структураў Народнага фронту. Маўляў, грошы «пад Чыгіра» далі ўплывовыя сілы з Масквы, а арганізацыйнае забеспячэнне прыходу былога прэм'ера да ўлады ўзяў на сябе Віктар Ганчар. Як ні дзіўна, але Пазьняк згадзіўся ўзяць удзел у гэтым «маскоўскім праекце». Сваё рашэнне балатавацца ў прэзідэнты ён тлумачыць досыць туманнай фразай аб тым, што «не ўдзельнічаць у выбарах было больш небяспечна, чым удзельнічаць». Аднак злыя выканаўцы маскоўскай волі падманулі беднага Зянона Станіслававіча.

Не ўтрымаўся кіраўнік Фронту і ад адкрытых непрыстойнасцяў. Па словах Пазьняка, «пасадка» Чыгіра была спланаваная, і цяпер ён сядзіць у чатырохмясцовай камеры з двума бізнесменамі, глядзіць тэлевізар і чакае свайго абрання прэзідэнтам. Як сцвярджае Пазьняк, у беларускіх турмах можна адпачываць, нібы на курорце. Праўда, сам ён чамусьці тры гады таму ад гэтай прывілеі адмовіўся і абраў цяжкую долю палітэмігранта ў далечыні ад любай Бацькаўшчыны. І відаць па ўсім, што вяртацца на радзіму, каб пакаштаваць жыцця на такім турэмным курорце, Зянон Пазьняк зусім не спяшаецца.

Тым часам верныя закліку правадыра члены БНФ пачалі масава выходзіць са складу выбарчых камісіяў, аднак у некаторых месцах краіны франтаўцы праігнаравалі заклік Пазьняка. Абазначыўся раскол і ўнутры кіраўніцтва Народнага фронту. ■

# БНФ не озеро для Нарцисса

**Юрий ХОДЫКО, зам. председателя БНФ**

Сойм БНФ четырежды рассматривал вопрос о президентских выборах. Принятые им решения исходили из политической целесообразности. Они обязательны для каждого члена БНФ, в том числе и для его Председателя. Оставаясь верным Конституции-94, было невозможно не поддержать решение Верховного Совета о проведении 16 мая очередных президентских выборов. Поэтому Сойм призвал членов БНФ принять участие в создании избирательных комиссий всех уровней, добросовестно и честно выполнить свой гражданский долг.

Когда Пазьняк выразил желание принять участие в избирательной кампании в качестве кандидата в президенты, Сойм приветствовал это решение и организовал инициативную группу для сбора необходимых 100 тысяч подписей. Решение создавало дополнительный стимул для членов БНФ и давало шанс существенно повысить рейтинг популярности БНФ, который замерз на отметке 5—7%. Оно должно было способствовать и повышению личного рейтинга Пазьняка. Но главным, однако, оставался мотив привлечь на выборы максимальное число людей.

Но именно с момента начала сбора подписей возникли и скандалы. Известный факс под названием «Проект Чигирь», адресованный членам БНФ, по распоряжению Пазьняка был направлен в прессу, что нельзя расценивать иначе, как предвыборную полемику кандидатов в президенты до регистрации ЦИК. Более того, за этим последовало распоряжение контролировать деятельность другой инициативной группы, поскольку цифры, которые она сообщала, показались Пазьняку завышенными.

Каждый раз минское руководство БНФ ставилось перед фактом частично реализованных распоряжений Председателя. И было вынуждено искать законный выход из неприятного положения. Но самым плохим было даже не то, что распоряжения Пазьняка, адресованные членам БНФ, нарушали уставное требование о коллегиальности принимаемых решений. За ними просвечивало непонимание природы демократической организации.

Делегировав своих членов в состав избирательных комиссий, БНФ освободил их от партийной ответственности. Только в коммунистической, тоталитарной системе партийная ответственность была выше гражданской. Никаких распоряжений представлять данные, собираемые избирательными комиссиями, руководство демократической организации отдавать не имеет права. Это, как минимум, напоминает Уотергейт. Означает вмешательство в деятельность ЦИК и нарушение закона.

В таких условиях задержанный на две недели апрельский Сойм принимает важнейшее решение о доведении до конца избирательной кампании, несмотря на многочисленные репрессии. Это решение отвечало интересам Беларуси, а не того или иного кандидата, необходимости спасти единство оппозиции диктаторскому режиму, сохранить перспективу мирного разрешения жесточайшего конституционного кризиса.



● Лидер Народного Фронта **Зенон Пазьняк** живет в эмиграции с 26 июля 1996 года

Но вместо того, чтобы популяризировать свою положительную программу, Пазьняк все силы отдал полемике с ЦИК. Ему, безусловно, известно, что в условиях, когда нельзя создать достаточное количество стационарных избирательных участков, когда не хватает даже избирательных урн, голосование только 16 мая означает резкое ограничение права людей высказать свою волю. Такое желание можно объяснить лишь боязнью проиграть выборы своему конкуренту. Выборы, полновесную юридическую значимость которых в условиях репрессий признать невозможно. Об этом заявили и Европейский Союз, и США. А это означает, что ни выигравший не будет признан законным президентом, ни проигравший не потеряет лицо.

И все же Пазьняк в последний момент заявляет о снятии своей кандидатуры. И в очередной раз отдает единоличное распоряжение членам БНФ выходить из состава избирательных комиссий. Что уже угрожает дискредитацией БНФ как демократической организации.

Я уверен, что большинство членов БНФ выполнило свой гражданский долг в комиссиях и не позволило сделать бессмысленными многочисленные жертвы мужественных людей, которые проводили кампанию. Невозможно в такие дни погружаться в самолюбование, забывая о других и о деле, как это продемонстрировал Зенон Пазьняк. ■

**МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ**

**С сегодняшнего дня мы начинаем публиковать результаты социологических опросов лаборатории «НОВАК» Андрея Вардамацкого, которые проводились с 26 апреля по 3 мая 1999 года. Репрезентативная выборка – 1.094 человека.**

# Как вы оцениваете известных политиков?




После ознакомления с цифрами опроса можно с уверенностью говорить о появлении нового определения – «загадочная белорусская душа». В рейтинге негативного отношения к политическим фигурам все более-менее логично. Кроме одного момента — шокирующего соседства во главе списка двух оппонентов: российского и американского президентов. На отношении к Биллу Клинтону, равно как и на отношении к президентам западноевропейских государств, сказались бомбардировки Югославии и неинформированность белорусов о причинах этих бомбардировок. Отрицательный рейтинг Клинтона намного превысил рейтинги его европейских коллег в связи с тем, что телеканалам России и Беларуси удалось навязать населению мнение, что НАТО и США — это практически одно и тоже.

Объяснить же нелюбовь половины белорусов к президенту России достаточно тяжело. Скорее всего, в основе этого отношения лежит целый комплекс претензий. Кто-то не может простить ему развал Союза; кто-то — экономический кризис, сказавшийся на благосостоянии белорусов, а кто-то — крепких поцелуев с белорусским президентом.

Тяжелее разобраться в том, почему белорусы любят тех или иных политических деятелей. Однозначно положительно оценивают белорусского президента 21,5% населения, а «скорее положительно» — 26,0%. Причины столь доброго отношения к Лукашенко малопонятны, ведь ежемесячно менее чем 1% белорусских граждан утверждают, что экономическое положение их семьи улучшилось. Еще менее понятно, что хорошего нашли в Саддаме Хуссейне 13,3% белорусов. ■

# Место в президиуме

Людмила ГРЯЗНОВА, депутат Верховного Совета

**В любой стране предприниматель — уважаемый человек, но только не на территории, расположенной между Москвой и Варшавой. В нашей стране, которая зовется Беларусь, а на Западе по инерции называется Вайсрусланд, — предпринимателя купцом не величают, наград на грудь не вешают, в президиумы не приглашают. Его рассматривают как классово чуждый элемент.**

Не осуждая непросвещенную публику – забитую доярку-колхозницу или затурканную учительницу-пенсионерку, – недоумеваешь от государственных мужей и их отношения к предпринимателям. Сколько раз нашим правителей пытались образумить, что не надо резать курицу, несущую золотые яйца, или выкорчевывать плодоносящие деревья. Но даже образные примеры не превратили их в грамотных птицеводов и садоводов. Кур режут, плодоносящие растения уничтожают, а потом удивляются, почему падает благосостояние и ухудшается экология.

Пять лет учебы без отрыва от производства ничего не дали стоящим у руля нашего государства. Теперь уже нет никакого смысла копаться в истоках их неудовлетворительной успеваемости, а надо думать о собственной жизни и ее обустройстве в будущем.



Первые, кто об этом должен побеспокоиться, – предприниматели. Именно они в цивилизованной Беларуси будут теми капитанами, которые станут у руля множества кораблей-предприятий и выведут экономику страны к благополучию. В отличие от известных двоечников, пытающихся усадить всех нас на одну государственную баржу, стоящую на мели.

Предприниматели, как подсчитано, составляют приблизительно десять процентов населения каждой страны. Но это самые активные, инициативные и творческие люди. Их энергии хватает на то, чтобы организовывать собственный бизнес, платить наемным работникам и содержать государство. На них лежит забота о детях и стариках, за счет их налогов функционирует государственный аппарат и армия.

Эти люди, вкладывая около половины своих доходов в казну страны, несут не только материальную, но и моральную ответственность. То, что происходит в стране, кто ею управляет, какие назначаются налоги и устанавливаются законы, – все это должно находиться под бдительным оком предпринимателей. Они же во всех цивилизованных государствах активно влияют на ход президентских и парламентских выборов. Все понимают, что политика – это концентрированное выражение экономики, и от того, какие политики будут выбраны, зависит размер будущих доходов и, как следствие, объемы пополнения бюджета страны.

Белорусские предприниматели, родившиеся как класс пять – десять лет тому назад, еще не достигли зрелого возраста и, естественно, зрелого мировоззрения. Их бизнес возник на пустом месте, с челночных поездок, из случайных обстоятельств и поэтому не создал устойчивых традиций защиты собственных интересов. Но сегодня предприниматели начинают понимать, что, наряду с внутренней конкуренцией, им противостоит крупнейший монополист — государство, которое, не став арбитром на рынке, сразу превратилось в оппонента производителей и торговцев.

Новая традиция зарождающегося среднего класса – создание некого подобия профсоюзов – естественная реакция на политику государства по отношению к челнокам, мелким торговцам и производителям. Чего только стоит налоговое законодательство – около двадцати различных налогов, которые подсчитать труднее, чем заниматься самим бизнесом. Постоянно меняющиеся правила налогообложения, введение налогов задним числом, невыносимый налоговый прессинг. Что касается периодических перерегистраций предприятий, то это как нестерпимая зубная боль, пока не вырвешь зуб, не заплатишь новую дань за перерегистрацию, работать невозможно. Кроме того, недавно введены гигиенические сертификаты. Все вещи, прилегающие к телу и предназначенные для продажи, должны получить такой сертификат. Это означает, что одно из десяти платьев, привезенных из-за границы, должно быть отдано на экспертизу в некий институт гигиены. На это уходит время, платье с концами пропадает в чреве загадочной организации, равно как и денежная сумма за данную "услугу". Мало того, что государство создает для предпринимателей непрекращающуюся мигрень налогами, зубную боль перерегистрациями, так еще и применило запрещенный удар ниже пояса, введя эти самые гигиенические сертификаты. Предприниматели, не выдержав множества ударов, возмутились и встали в боевую стойку.

Они, объединенные в профсоюзы на оптовых рынках крупных городов, подали голос в свою защиту. Когда тебя бьют, приходится защищаться, и, как выяснилось, лучше это делать сообща. Они вместе вышли на забастовку, вместе сели на рыночной площади, остановив торговлю, вместе протестовали против решений власти. Пока этот протест носит пассивный характер, дальше экономических требований предприниматели не идут. Но первый шаг сделан, боевая стойка принята, рука сжата в кулак, только от одного вида сомкнутых рядов оппонент-тяжеловес отступит назад.

Профсоюзы предпринимателей – явление немыслимое для цивилизованного рыночного государства, но актуальное для нас. Мелкие предприниматели вынуждены сообща отбиваться от запрещенных ударов власти и защищать свои интересы. Их солидарная сила еще не осознана самими предпринимателями, но отлично понята властью. Государственные мужи нюхом чуют, как зреет тут недовольство, как оно кристаллизуется, как оформляется экономически и политически. Активные, грамотные тридцати-сорокалетние мужчины и женщины, не обремененные вредными привычками, добившиеся относительного достатка своим тяжким трудом, могут постоять за себя. Кроме того, они знают другую жизнь – предпринимателей в Польше и Чехии, они знают иную общественную атмосферу, и это знание придает им силы и уверенность.

Через некоторое время Беларусь, как и ее западные соседки, также станет цивилизованной страной, где достойное место займут предприниматели. Но чтобы желаемое сбылось, каждому из них нужно поработать на строительстве общего белорусского дома. Предпринимателям придется не только думать о собственном бизнесе и уютном семейном окружении, но и позаботиться о своих коллегах, сплотиться против непредсказуемого государственного тяжеловеса и усмирить его норов. Иначе невозможно ждать от просвещенной и непросвещенной публики уважения, достойных эпитетов, почетных наград и мест в президиуме. ■

МІНУЛАЕ

# Новы ключ да Фарнага касцёла

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**У гродзенскім Фарным, былым езуіцкім касцёле падрыхтоўка да святкавання 2000-годдзя хрысціянства распачалася з кавaнай брамы. Яе знялі для рэстаўрацыі, замянўшы часовымі кратамі. Важыла брама больш за тону.**

Першым у Беларусі храм атрымаў на пачатку 90-ых гадоў асаблівы статус «малой базылікі». Да сённяшняга дня ён з'яўляецца архітэктурнай дамінантай у цэнтры горада, яго памеры 30 на 60 метраў, а вышыня каля 50. На званіцы знаходзіцца адзін з самых старых у Еўропе вежавых гадзіннікаў, які адрэстаўраваны і дзейнічае.

Першае набажэнства ў храме адбылося дакладна ў 1700 годзе. Праз пяць гадоў яго ўрачыста асвяцілі ў гонар каталіцкага святога Францішка Ксаверыя. На ўрачыстасці прысутнічаў кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст ІІ, а таксама непрыхільнік каталіцтва расійскі цар Пётр І, які з'яўляўся на той час саюзнікам караля ў вайне супраць шведаў. Аднак брама касцёла значна больш позняга паходжання. На думку гродзенскага гісторыка архітэктуры І. Трусава, яна была ўсталявана ў канцы 90-ых гадоў мінулага стагоддзя. Раней доўгі час касцёл меў драўляную браму.

Сённяшняя брама складаецца з чатырох частак, кожная з якіх важыць прыблізна 250 кілаграмаў. Каб зняць адну і пагрузіць на машыну, спатрэбіліся высілкі шасці мужчын. Цяпер кожная з іх палягчэе прыкладна на трэць, менавіта столькі важылі наслаенні фарбы, накладзеныя на метал за сто гадоў.

Дагэтуль зусім не было вядома — хто той майстар, які зрабіў браму. Цяпер, пасля ачысткі, выявлена кавальскае кляймо з двзюх лацінскіх літараў — H.F. Браму пакрывае каваны раслінны арнамент. Частка яго папсаваная іржой, страчанае давядзецца аднаўляць. Цяжкасць у тым, што раней метал быў лепшых гатункаў. Рэстаўрацыяй займаецца вядомы ў горадзе каваль Ю.Мацко. Значная частка працы будзе выкананая дабрачынна. Па словах Ю.Мацко, у кузні імі быў знойдзены на браме след ад снарада.

Дагэтуль брама замыкалася толькі знутры. Цяпер будзе выкаваны новы замок — вонкавы — і ключ да яго. На ўрачыстасці 2000-годдзя хрысціянства храм упершыню за тры сотні гадоў адамкнуць з вуліцы. ■

ЗДАРОЎЕ

# Век тортаў не ўбачыць

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

**У палове раёнаў Магілёўскай вобласці санітарна-гігіенічная служба забараніла вырабляць торты і піrожныя.**

Прычыны досыць празаічныя. Звычайна ў раёнах падобныя рэчы вырабляюць спажывсаюзаўскія прадпрыемствы. На тэхналагічны ўзровень вытворчасці ў іх наракаюць ужо даўно. Напрыклад, прычынай для цяперашняй забароны стала адсутнасць неабходнага абсталявання, каб захоўваць кандытарскія вырабы: халадзільнікаў, спецыяльнай тары і г. д. У цёплы вясновы і летні час падобныя «нядахопы» пачынаюць сур'ёзна пагражаць здароўю людзей. Невыпадкова, што нават за папярэднія 4 зімовыя месяцы ў гэтых раёнах было забаронена да разлізацыі больш за 1 тону тортаў і піrожных. Адначасна, медыцынская статыстыка засведчыла рост захворванняў на кішэчныя інфекцыі больш чым у 1,25 раза.

Трэба адзначыць, што небяспека захворванняў сыходзіць не толькі з хлебапякарскіх прадпрыемстваў. 9 малаказаводаў па вобласці аднесеныя да 2-й ступені так званай эпідэміялагічнай надзейнасці. Але, як не можа быць «асятрыны 2-й свежасці», так і з «эпідэміялагічнай надзейнасцю 2-й ступені»...

Прынамсі, не хваляваца можна, бадай, толькі шклаўчанам. «Прэзідэнцкі» раён зараз мае яшчэ больш «асаблівы» статус. Ён рыхтуецца да чарговых «дажынак». А значыць, абсталяванне на прадпрыемствы набудуць. Паколькі ў свята нельга абысціся без торта. Астатнія раёны мусяць выкручвацца самі. А цярпець з гэтага будзем мы, пакупнікі. ■

КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

# Сувязісты абвясцілі вайну секс-паслугам па тэлефоне

Аляксей АРЭШКА, БелаПАН

**Беларускія сувязісты адсочваюць у прэсе рэкламныя аб'явы аб прадастаўленні секс-паслуг па тэлефоне і ў асобных выпадках адключаюць доступ да такіх нумароў.**

Паводле словаў намесніка міністра сувязі Любові Пакрышкі, на такія дзеянні сувязісты вымушаныя пайсці з-за шматлікіх зваротаў грамадзянаў, якія пацярпелі ў выніку таго, што іх нумар без іхняй згоды выкарыстаў для сувязі з заакіянскімі жрыцамі кахання па тэлефоне. У выніку пацярпелы бок аказваецца не ў стане аплаціць рахункі за перамовы. З гэтай прычыны сувязістамі праводзіцца таксама прафілактычная праца па адсочванні вялікіх сумаў за перамовы і своечасовым папярэджанні кліентаў. Трэба адзначыць, што пры адключэнні звычайнага доступу да пэўнага нумара тэлефона жадаючы ўсё ж можа з ім звязацца, але толькі праз тэлефаністку.

Вядома, што апошнім часам у рэспубліцы развіваецца радыёпіратства і, у прыватнасці, падключэнне да ўстаноўленых у кватэрах і нідзе не зарэгістраваных радыётэлефонаў. У гэтым выпадку, паводле сцвярджэння Л.Пакрышкі, часта вінаватыя самі абаненты, якая павінны ўстанаўліваць тэлефонныя апараты, сертыфікаваныя ў Беларусі, а таксама не парушаць правілы дамоваў, якія абаненты заключаюць з Мінскай гарадской тэлефоннай сеткай. ■

**У чарговым нумары «Нашай нівы» цэлая паласа прысвечаная новай кнізе Славаміра Адамовіча, лёс і паводзіны якога робяць яго паэтам-сімвалам нашага часу. Кніга называецца «Плавільшчыкі расы», у ёй сабраныя найлепшыя старыя і новыя творы паэта. Чытачы таксама знойдуць фрагменты з новай кнігі лаўрэата Нобелеўскай прэміі ліцвіна Чэслава Мілаша «Прыдарожны сабачка», заканчэнне трыпціха Васіля Быкава «Байкі жыцця», а таксама дасціпныя назіранні пра закулісное жыццё палітыкаў у Радзе Еўропы. Чарговая глава кнігі Сяргея Харэўскага «100 твораў беларускага мастацтва XX ст.» прысвечаная карціне Міхала Сеўрука «Жніво».**

17 траўня на 62-м годзе жыцця раптоўна памёр выдатны беларускі вучоны, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) ад моманту яе заснавання, доктар гістарычных навук, прафесар **Міхась Восіпавіч Біч.**

Выказваем шчырае спачуванне родным і блізкім нябожчыка, яго сябрам і паплечнікам.

Выканаўчае бюро БСДП(НГ)

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 546 Нумар падпісаны ў друк 17/05/99 (15:00) Наклад — 16.940